*З родным словам кроў не стыне...*
*Алесь Бабаед*

# КАРДОН

**№ 1(18)**
**Студзень**
**2001**

Інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства беларускай мовы"

# СЯМЁН ДОМАШ У ВІЦЕБСКУ



■ С. Домаш на здымку справа

Лідэры дэмакратычных партый змаглі "наступіць на горла" уласным амбіцыям і адмовіцца ад вылучэння сваіх кандыдатур на прэзідэнцкіх выбарах. Пастаўлена мэта стварэння шырокай кааліцыі дэмакратычных сілаў, з тым, каб падтрымаць аднаго з кандыдатаў, які мае найбольш шансаў на поспех. Праз сіта нефармальнага адбору прайшла вялікая колькасць людзей – палітыкаў, гаспадарнікаў, дзеячоў культуры і навукі. Зараз колькасць рэальных прэтэндэнтаў на ролю "адзінага кандыдата" ўдалося зменшыць да трох: Міхаіл Чыгір, Сямён Домаш і Уладзімір Ганчарык. Гэта добры вынік. Будзе яшчэ лепш, калі з іх удасца стварыць адзіную каманду, бо перамагчы Лукашэнку можна толькі ўзгодненымі дзеяннямі аднадумцаў пры шырокай падтрымцы грамадскасці. Віцебская Каардынацыйная Рада дэмсілаў запрасіла найбольш рэальных прэтэндэнтаў у кандыдаты, каб бліжэй пазнаёміцца з імі. Першым адгукнуўся на запрашэнне Сямён Домаш. Ен распавёў пра сябе, акрэсліў свае асноўныя арыенціры ў палітыцы і эканоміцы, адказаў на шматлікія пытанні прысутных. Прычым адказваў на той мове, на якой задавалася пытанне, выявіўшы добрае валоданне абеімі. Уражанні ад знаёмства добрыя. Сур'ёзны, разважлівы чалавек. Слоў на вецер не кідае. Пасля надакучлівай цяперашняй траскатні гэта прыемна. Прыярытэтнымі накірункамі лічыць: 1 – Незалежнасць. 2 – Дэмакратычныя формы кіравання і развіцця грамадства. 3 - Эфектыўныя эканамічныя рэформы. Наконт adносінаў з Расіяй і Захадам ўзгадаў пагаворку "Ласкавае цяля дзве маткі ссе". Галоўнае - не шукаць ворагаў сярод суседзяў і ўсяго свету.



Гэта аўтограф, магчыма, будучага прэзідэнта.

Спадар Домаш падкрэсліў, што яшчэ не вызначаны адзіны кандыдат, але ёсць спадзяванні, што прэтэндэнты будуць дзейнічаць ўзгоднена, у адной камандзе, бо толькі шырокая кааліцыя зможа перамагчы. Вядома, ніхто не разлічвае, што выбары будуць свабодныя і дэмакратычныя, але гэтага трэба дабівацца. Кааліцыя мае намер патрабаваць змяненняў у выбарчым заканадаўстве, каб апазіцыйныя партыі і арганізацыі мелі сваіх прадстаўнікоў у выбарчых камісіях, каб быў доступ да сродкаў масавай інфармацыі і іншае.

Сямён Мікалаевіч пазнаёміўся з прадстаўнікамі рэгіёнаў. Вось ягоны аўтограф на старонках нашага "Кардона": "Чытачам і творчаму калектыву з павагай і пажаданнямі поспехаў".

***В. Гракун***

На экран глядзець абрыдла.
У адчаі
Яркі вогнік свечкі я лаўлю
І яна, дрыготкая, трымае
Позірк мой, ды і душу маю.

Трапяткі агеньчык,на зыходзе
Першая ў Новым годзе ноч.
На разломе двух тысячагоддзяў
Новага мне шчасця не прароч.

Мне не вельмі шмат ужо і трэба:
Ціхі шэпт бярозак і ялін,
І пад дахам восеньскага неба
Купіну чырвоных журавін.

Песню салаўя ў кусце чаромхі,
Звонкае зязюльчына "ку-ку",
Дабрыні, надзей, здароўя трохі,
І сяброўства шчырага руку.

***В. Гракун***

# БЕЛАРУСЬ ІДЗЕ НА ГАЛГОФУ

**“Мы, беларусы, з братняю Руссю разам шукалі к шчасцю дарог”**

Шукалі, толькі не знайшлі. І не па добрай волі разам, а пад царскім і бальшавіцкім прымусам. Бясконцыя напады Масковіі ў мінулыя вякі, жудасныя факты знішчэння беларусаў, падаўленне вызвольных рухаў і паўстанняў – якіх толькі выпрабаванняў не выпадала на долю беларускага народа. Зараз Беларусь, нясе цяжкі крыж свой на новую Галгофу, перакрываючы сабе гістарычную перспектыву назаўсёды.

У 1918 годзе закутак царскай імперыі – Фінляндыя вызвалілася ад маскоўскай залежнасці. Па ўзроўню жыцця тады яна была не вышэй за Беларусь, але, пазбавіўшыся путаў, хутка пачала набіраць тэмпы эканамічнага і дэмакратычнага развіцця. Зараз бюджэт маленькай Фінляндыі перавышае бюджэт Расіі, а ўзровень жыцця фінаў – адзін з самых высокіх у Еўропе. Не загінулі, і не крычаць, што без Расіі не пражывуць. Другі яскравы прыклад. Як толькі вырваліся з-пад імперскага цэнтра Прыбалтыка і Усходняя Еўропа – там таксама пачаўся прагрэс і паляпшэнне жыцця. Паглядзіце на паказчыкі сярэдняй зарплаты: у большасці посткамуністычных краін яна павялічваецца, а ў Расіі і Беларусі памяншаецца.




**Зарплата ў посткамуністычных краінах у доларах ЗША.**

Растуць толькі даўгі. Расійскі доўг міжнародным фінансавым арганізацыям дасягнуў 160 мільярдаў долараў (гадавы бюджэт Расіі – 20 мільярдаў). Сыравінныя рэсурсы даюць прыбытак толькі алігархам, якія тут жа пераводзяць яго за межы Расіі. Узровень жыцця ў Расіі пагаршаецца і не мае тэндэнцыі да паляпшэння (за выключэннем Масквы і саміх алігархаў). Рэгіёны застаюцца то без грошай, то без паліва, то без харчу, то без электрычнасці. Масква не ў стане кіраваць тэрыторыяй ад Балтыйскага мора да Японскага. Трапна сказаў лідэр АГП С. Багданкевіч: “Хай Расія спачатку Прымор'е далучыць да сябе”.Нам трэба будаваць уласны дом, а не ціснуцца ў камуналку.

Без маскоўскага дыктату і насілля Беларусь была б ужо квітнеючай еўрапейскай краінай. Мільёны беларусаў пазбеглі б рэпрэсій і перасяленняў на бяскрайнія прасторы Сібіры і Казахстана. Засталіся б беларускімі Вільня і Беласток, якія СССР перадаў Літве і Польшчы. Беларуская мова і культура не каналі б, а духоўна развітыя адукаваныя і працавітыя беларусы жылі б дастойна і годна без абдымкаў-ціскоў “старэйшага брата”.

Але Беларусь, як праклятая, працягвае несці свой крыж на Галгофу. Людзі крычалі Понцію Пілату: “Распні яго!”. І Хрыста ўкрыжавалі. У муках звярнуўся ён да Бога-айца: “Гасподзь, чаму ты пакінуў мяне?”. Беларусы маўклівымі сведкамі назіраюць трагічны ўзыход сваёй краіны на Галгофу. Толькі невялікая частка патрыётаў з адчайным усведамленнем трагедыі народа пытаюць: “Божа, чаму ты адвярнуўся ад Беларусі? Выратуй і зберажы!”

| Прадукты | 1994 | 2001 |
|---|---|---|
| Свініна | 35 | 1 |
| Бульба | 700 | 24 |
| Хлеб | 500 буханак | 10 |
| Сыр | 22 | 1,5 |
| каўбаса | 30 | 1 |
| Масла | 22 | 1 |
| Гарэлка | 23 бут. | 2 |
| Малако | 250 л. | 18 л. |
| Селядцы | 50 кг. | 2 кг. |

**Што можна было купіць за мінімальную зарплату ў 1994 г., калі Лукашэнка прыйшоў да ўлады і цяпер.**

*Я Мірон*

# ВЁСКУ ГУБЯЦЬ ЦЭНЫ. ПАРАЎНАЕМ:

За тону бензіна ў Беларусі патрэбна аддаць сем тон малака ( у краінах Еўропы – паўтоны). Беларуская калгасная карова дае за год крыху больш 2 тон малака, а ізраільская - 10 тонн, прычым у іх там няма ні прыродных лугоў, ні паплавоў. У маленькай Даніі сабралі гэтым летам па 65 цнт зерневых з гектара, у нас каля 20. У той жа Даніі 60 тыс фермераў вырабляюць два з паловай мільёны тон свініны. У нас вытворчасць свініны знізілася да 200 тысяч тон.

# ГЕНАЦЫД ХАВАЮЦЬ

У Докшыцкім раёне намаганнямі мясцовага краязнаўца Віктара Іванавіча Скарахода ўсплылі такія факты. Пры складанні кнігі Памяці з архіва КДБ атрымалі спісы ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Па Бярозкаўскаму сельсавету ў спісе пазначана дзесяць чалавек. Але краязнаўца дакладна ведаў, што толькі з ягонай вёскі Слабада вывезена ў 30-х гадах 22 чалавекі. Віктар Іванавіч абыйшоў усе астатнія вёскі свайго сельсавета і склаў свой спіс, у якім аказалася не 10, як па спісу КДБ, а больш за 300 ахвяр. Даныя тыя дакументальна падцьверджаныя, у большасці сваякоў пацярпеўшых ёсць даведкі аб рэабілітацыі. Параўнаўшы два спісы, В. І. Скараход робіць вывад, што афіцыйную лічбу трэба памнажаць на 30.

З падобнымі фактамі сутыкаліся і іншыя даследчыкі. Выходзіць, што ўлады хочуць схаваць сапраўдныя масштабы рэпрэсій. Беларусь – адзіная з рэспублік былога СССР, у якой да гэтай пары афіцыйна не апублікавана статыстыка сталінскіх рэпрэсій. Расія даўно прызнала, што з 1917 года па сярэдзіну 50-х знішчаны 21 мільён чалавек. У Беларусі згадываюць хто пра 600 000, хто пра 900 000чалавек (кожны дзесяты). Прычым не ўлічваюцца ўскосна рэпрэсаваныя: звольненыя з працы, выключаныя з ВНУ, пазбаўленыя бацькоў і г. д.

Сёння тэма рэпрэсій амаль сыйшла з дзяржаўных СМІ. Беларусь усё яшчэ "ваюе" на франтах мінулай вайны – ці не адзіная з усіх, хто браў у ёй удзел. Ваюе сама з сабой, страчваючы арыенціры ўласнага развіцця. Паглядзіце, нават на старонках раёнкі дагэтуль шмат матэрыялаў пра ўдзельнікаў вайны, а пра ахвяр генацыду – нічога. Ці не таму няма адказу на пытанне, як у XX-м стагоддзі людзі маглі агульнымі намаганнямі знішчыць столькі нявінных суайчыннікаў – сваіх суседзяў, саслужыўцаў, знаёмых. Жывуць дагэтуль сярод нас тыя, хто пісаў ілжывыя даносы, хто служыў у лагерах і турмах. Я ведаю пра аднаго такога чалавека, яго і зараз баяцца аднавяскоўцы.

Сіндром 37-га года захоўваецца ў свядомасці людзей. Страх перадаецца і фарміруе аснову паводзінаў: маўчы, не высоўвайся, цярпі. Памятаю, як ў дзяцінстве я шукала ўдзельнікаў вайны у маёй роднай вёсцы Кардон. У нас было шмат удоў, але паступова я высветліла, што іх мужы не ваявалі, яны зніклі раней, да пачатку вайны. Мае пытанні натыкаліся на сцяну маўчання, а маці казала, што будзе спакайней, калі я не буду гэтага ведаць. Але ж гэта вечныя пытанні і вечная праблема, не асэнсаваўшы якую нельга будаваць новае жыццё. Мы не павінны забываць бязвінна загінуўшых яшчэ і таму, каб не паўтарылася гісторыя. Ужо зноў гінуць ці знікаюць вядомыя людзі, якія выказвалі нязгоду з існуючым ладам: Майсеня, Захаранка, Ганчар, Карпенка, Завадскі... Мы маўчым, хаваем галовы ў пясок. "Па кім звоніць звон?" Прыслушайцеся, магчыма, ён звоніць і па вас саміх.

Не было прызнання памылак ні з боку КПСС, ні з боку КДБ. Не было і пакаяння. Таму зноў шмат каму хочацца вешаць і расстрэльваць тых, чые думкі адрозніваюцца ад ягоных уласных. Не буду называць імёны сваіх знаёмых (хай яны самі пазнаюць сябе і жахнуцца), ад якіх я чула наступнае: "Я б тых, хто выходзіць на мітынгі , вешала !", "Я б усіх дэмакратаў на плошчы парасстрэльваў!". Думаеце, гэта казалі нейкія пачварныя вырадкі? Ды не, звычайныя паважаныя людзі, якіх я нават сваімі ворагамі не лічу. Аднойчы патэлефанавала незнаёмая жанчына, якой не спадабалася праўда, якую я пішу, і пачала пагражаць Салаўкамі. Потым высветлілася – яна былы калгасны парторг. Былі камуністамі (і засталіся ў душы) і аўтары прыведзеных вышэй памкненняў вешаць і расстрэльваць.

Няўжо мала ім той крыві, якая ўжо была праліта? Няўжо мала беларускіх касцей на далёкіх Салаўках і ў мясцовых Курапатах? Задумайцеся, людзі! Не трэба паддавацца істэрыі пошуку ворагаў. Толькі паяднаўшыся разам можна знайсці выйсце з цяжкога становішча ў грамадстве.

***В. Гракун***

# ПЕНСІІ ЗА МЯЖОЙ

Ураджэнка Глыбоцкага раёна Соф'я Кухто ў гады вайны была вывезена ў Германію. Працавала ў гаспадара, пакахала такога ж парабка з Галандыі. Пасля вайны яны пераехалі ў невялікі гарадок недалёка ад Амстэрдама. Сёлета інтэрнацыянальная сям'я наведала Глыбоччыну. Ледзь не плакалі старыя з Галандыі, калі пабачылі нашы пыльныя дарогі, старыя хаты і хлявы, змучаныя твары сваіх равеснікаў.

Сафія з мужам жывуць у сяміпакаёвай кватэры. Яна ніводнага дня не працавала, была хатняй гаспадыняй, але атрымлівае пенсію па ўзросту ў памеры 550 доляраў у месяц. Яе муж працаваў простым рабочым на заводзе, яго пенсія 1800 доляраў. Яны зараз шмат падарожнічаюць, адпачывалі ў Італіі, Іспаніі, Грэцыі, Турцыі, Таіландзе, на Кубе і Канарскіх астравах і шмат дзе яшчэ. Чаму ж нашы пенсіянеры за столькі год шматпакутнага жыцця і цяжкой працы не маюць магчымасці адпачыць пад цёплым сонцам ці проста адпачыць напрыканцы свайго зямнога шляху? Церпяць нястачу, здзекі, падман, нахабства, цяжкую працу і нават не скардзяцца. Беларуская цярплівасць стала ўжо падставай для анекдотаў.

# ЛЕГЕНДА ПРА БЕЛАРУСЬ

Даўным-даўно на зямлі Белай Русі князь Днепраслаў узводзіў магутны замак. Многа год працаваў з дружынаю сваёй, каб ніводзін вораг не змог завалодаць скарбамі беларускай зямлі. Калі замак пабудавалі, то ўвялі правіла: ніхто не павінен са зброяй заходзіць у яго. Госці пакідалі зброю перад варотамі і іх сустракалі хлебам-соллю добразычлівыя беларусы. Сам Бог любіў гэтых людзей, - самых мірных і працавітых на свеце. Ен даў ім багатыя лясы і сады, блакітныя азёры і крыніцы з гаючай вадой. Людзі вырошчвалі хлеб, гадавалі дзяцей, складалі песні і радаваліся жыццю і сонцу.

Аднойчы чорная хмара завалакла неба і на замак напаўзла ўсялякая нечысць. Клікнуў дружыну Днепраслаў, загадаў мячы каваць, каб абараніць свой люд, сваю зямлю. Пачалася страшная бітва. І доўжылася яна дваццаць дзён і начэй. Спярша пабілі войска чарцей, якія хацелі адабраць у беларусаў іх веру ў Бога і Добро. З пабітых чарцей павыпаўзалі ядавітыя змеі, якія хацелі атруціць чыстую ваду азёраў і крыніц. Прыскакалі пярэваратні і ваўкалакі, ненажэрныя і бяздушныя, якія хацелі павытаптаць жытнёвыя палі і адтрэсці сады.

Вядзіную сілу даў бог Днепраславу і дружыне яго. І сталі воямі самыя мірныя людзі – беларусы, і паказалі яны ўсёй нечысці, што зямлю сваю ў крыўдзу не дадуць, што даражэй за ўсё на свеце Мір, Сонца і Свабода. І сонца выглянула зноў з-за хмар і заззяла, і да гэтага часу свеціць яно працалюбівым і сумленным людзям.

Даўно няма ўжо Днепраслава, але жывуць яго нашчадкі і памятаюць, што родная Беларуская Зямля – самая мірная на свеце і самая непрыступная для ўсякай нечысці.

***Кацярына Сергіенка,***
***член гуртка "Юны журналіст" СШ №1***

# ЛЯОНАЎ ПРАДКАЗВАЕ КРАХ

Мы ўжо расказвалі пра былога міністра сельскай гаспадаркі Васіля Ляонава у адным з мінулых нумароў. Аўтарытэт гэтага чалавека непахісны. Яго не зламалі ні ілжывыя абвінавачванні, ні гады турмы. Зараз ён вымушаны сыйсці "у падполле". Змяшчаем у скарочаным выглядзе некалькі яго адказаў на пытанні карэспандэнтаў.

***- Спадар Ляонаў, дазвольце Вас павіншаваць з Новым годам і пажадаць усяго найлепшага. Як сустрэлі новае тысячагоддзе?***

Я святкаваў у кампаніі сваякоў і добрых сяброў. Гэтага шчасця – сустракаць Новы год разам з дарагімі табе людзьмі я быў пазбаўлены тры гады запар.

***- Як ўзнікла Ваша справа?***

Яна замешаная на асабістых рахунках і на палітыцы. Арыштавалі мяне і пачалі "раскручваць" як арганізатара забойства Мікалуцкага. Лукашэнка заявіў, што гэта я і Старавойтаў вінаватыя. Але нічога не пацвердзілася і яны вымушаны былі прышчапіць мяне да рассветаўскай справы, каб хоць у нечым абвінаваціць.

***- Як вам працавалася ў Лукашэнкі?***

Я пачынаў працаваць з надзеяй, што мы будзем рабіць рэформы. Існавала праграма пераходу. Але хутка пачаліся праблемы. Лукашэнку рэформы не патрэбны, ён выбраў курс у мінулае і, не гледзячы на шматлікія ўласныя правалы і поспехі суседзяў, памылкі свае не прызнаваў. У выніку – мы ўжо не забяспечваем сябе прадуктамі харчавання, а цэны ў Мінску, як у Берліне. Калі б Лукашэнка, кіруючы саўгасам, дапусціў такі спад, нанёс такую шкоду, то райкам зняў бы яго імгненна, а тут зняць некаму

Некалі немцы лічылiБеларусь самай перспектыўнай з усіх рэспублік былога СССР.

Мы маглі б жыць намнога лепш. Калі Лукашэнка будзе працягваць рабіць стаўку на калгасна-саўгасны гібрыд прыгоннага права і працоўнай калоніі, то людзі будуць ужо не проста беднець, а дзічэць. Гэта эканамічны тупік, катастрофа. Новым прэзідэнтам павінен стаць чэсны чалавек. У нас вялікі людскі патэнцыял. Дастаткова толькі стварыць чэсныя правілы гульні – каб вытворцаў не рабавалі бандыты і не абірала дзяржава – і Беларусь за 5 гадоў абгоніць Польшчу.

***- Вашыя рэформы яшчэ можна аднавіць?***

Сітуацыя мяняецца не ў лепшы бок. Яшчэ пяць гадоў такога кіравання і вёска абуецца ў лапці. Асабіста я перакананы, што Лукашэнка нанёс сельскай гаспадарцы страты большыя, чым яна панесла ў гады вайны. Старацца трактары і камбайны, рушацца комплексы, разбураецца гаспадарчая структура, якую будавалі дзесяткі гадоў. Сяляне, здаецца, зразумелі, што ад Лукашэнкі заробкаў не дачакаюцца. Чыноўнікі таксама ў ім расчараваліся, бо перспектываў на заможнае жыццё і абароненую старасць ніякіх. Прадпрымальнікі і апазіцыя – адкрытыя апаненты. Але вырашаць будзе шэраговы выбаршчык, той, хто абіраў Лукашэнку, спакусіўшыся на ягоныя абяцанкі. Гэтым людзям і сёння патрэбны абяцанкі.

***- Вы не збіраецеся прыняць удзел у прэзідэнцкіх выбарах?***

У ролі прэтэндэнта я сябе не бачу. Але буду на баку таго, хто кіне Лукашэнку выклік.

***- Вы сцвярджаеце, што рэжым рухне?***

Так. Я ўпэўнены. Некалі я прадказаў прэзідэнцтва Лукашэнкі, а зараз я прагназую ягоны крах.

*Адкуль наш род.*

# ВОЙСКА ІВАНА ЖАХЛІВАГА ЗАХАПІЛА ПОЛАЦК

Ішла Лівонская вайна. Маскоўскія ваяводы дратавалі Беларусь, неслі смерць і здзекі. Іван Жахлівы (Грозны) асабіста ўзначаліў полацкі паход. Гэты цар з дзяцінства меў садысцкія схільнасці, напрыклад, любіў назіраць, як канаюць скінутыя ім з высокіх крамлёўскіх дахаў таварышы па гульнях. Менавіта ён сфарміраваў вялікадзяржаўнае азіяцкае самаўладдзе, што трымалася на тэроры супраць свайго народу.

Полацк у той час быў найбуйнейшым і найбагацейшым горадам нашай краіны: дзевяцівежавы замак, дванаццаць манастыроў і васемнаццаць храмаў. Іван Жахлівы прывёў вельмі вялікае войска з гарматамі і сценабітнымі машынамі. Ішоў студзень 1563 года, калі гэта войска падыйшло к Полацку. Параўнальна невялікі гарнізон палачанаў не здаваўся. Абаронцы збіраліся вытрымаць доўгую аблогу, але шэраг памылак ваяводы Станіслава Давойны прывёў да паражэння. Маскавіты здабылі багатае і стратэгічна важнае месца, захапілі вялікія скарбы і каля 50 000 палонных. Горад ператварыўся ў велізарнае папялішча. Цар загадаў без усякага суда пазбаўляць жыцця тых, хто хрысціцца не па-праваслаўнаму. Манахаў-бернардзінцаў і дамініканцаў пасеклі шаблямі, каталікоў і юдэяў, ад немаўлят да старых, патапілі ў Дзвіне. Гарадскі скарб, уласнасць купцоў, шляхты і ўсіх заможных людзей адаслалі ў Маскву. Туды ж пагналі і палонных, павязаных вяроўкамі, у тым ліку жанчын і дзяцей. Палонных амаль не кармілі і яны сотнямі паміралі на зімовых дарогах ад голаду і холаду. 665 палачанаў пасля па загаду цара зарэзалі ў вязніцах. Тых, хто застаўся, ператварылі ў рабоў.

Захапіўшы беларускае Прыдзьвінне, маскоўцы ўвялі жорскія акупацыйныя парадкі.



■ Полацкі замак. Малюнак XVI ст.

Знішчаліся цэлыя вёскі, не літуючы ні кабет, ні дзяцей. Заваёўнікі занеслі з сабой чуму, якая давяршыла чорную справу знішчэння. У рукі да ворагаў трапіла багатая бібліятэка Сафійскага сабору. Верагодна менавіта тады Беларусь страціла неацэнны Полацкі летапіс, бо царскія служкі паліла ці вывозілі старажытныя граматы, каб вынішчыць памяць палачанаў пра сваю дзяржаву.

## РАЗГРОМ МАСКОЎЦАЎ НА РАЦЭ УЛЕ

У наступным 1564 годзе царскія палкі збіраліся ў новы паход У захопленым раней Смаленску і Дарагабужы стаяла 25-тысячнае войска Князя Шуйскага, якому было наказана выступіць да Оршы і "выпальваючы Літву" ісці на Мінск і Навагрдак. Шуйскі на беларускіх землях адчуваў сябе гаспадаром, ён не чакаў супраціў, за што і паплаціўся. Гетман Мікалай Радзівіл, што стаяў у Лукомлі, і выступіўшы насустрач на беразе ракі Ула каля вёскі Іванск (Чашніцкі раён) раптоўна ўдарыў па ворагу. Стральцы не паспелі ні надзець браню, ні стаць у строй. Сеча доўжылася пяць гадзін, маскоўцы, кінуўшы абоз, пачалі ўцякаць. Нашы ваяры пераследавалі і дабівалі захопнікаў. Радзівілу дапамагалі мясцовыя жыхары. Просты селянін з Іванску забіў сякерай самога ваяводу Шуйскага. На месцы бітвы палегла каля 9 тысяч маскоўцаў і столькі ж патанула. Перамога на Уле сарвала планы далейшага захопу Вялікага княства Літоўскага, царскія ваяводы павярнулі назад.

Раз'ятраны разгромам на Уле Іван Жахлівы зрываў злосць у расправе над полацкім палонам. Вядомы выпадак, калі прама з-за стала цар з застолiцай кінуліся ў сутарэнні, дзе забілі болей за сотню знясіленых безабаронных людзей, а пасля вярнуліся за сталы – дапіваць. Вядома, што ў той разьні полацкі шляхціч Быкоўскі выхапіў з рук цара дзіду, але сілаў не хапіла, каб адправіць яго ў магілу.



■ Мікалай Радзівіл

Толькі праз 15 гадоў Вялікі князь Стэфан Баторы вярнуў заваяваныя маскоўскімі царамі землі. Але напады маскоўцаў на гэтым не спыніліся.

*Паводле У. Арлова*

## ДЗВЕ ГАЛАВЫ

З самай раніцы карцела Макару апахмяліцца. Ен ведаў патаемную жончыну хованку ў якой стаіць выратавальнае зелле, але як падступіцца? Прасіць – бяды не абярэшся. А ў галаве шуміць, гудзіць, трэба як мага хутчэй пусціць душу ў рай. Дапамог шчаслівы выпадак – жонка паехала да сваіх бацькоў. Макар узрадаваўся, дастаў самагонку, перахрысціўся і выпіў кілішак. Запякло ўнутры, захарашэла, быццам зноў на свет нарадзіўся. Потым яшчэ чарачку дабавіў, за ёй другую, трэцюю. Спахапіўся, калі ў слоіку ўжо ладнага недаставала. Задумаўся. Жонка вернецца – лямант будзе, хоць да хаты не падыходзь.



Як жа схаваць свой грэх, - ламаў галаву Макар. Ён выйшаў на двор. У хлеўчуку прыветліва рохнуў парсюк. Макару прыйшла выратавальная ідэя - паклічу Гаўрылу з Саўкам, зарэжам парсюка, яго ж трэба будзе законна памянуць: і вып'ем, і закусім. А жонцы скажу, што парсюк раптоўна захварэў, прыйшлося прырэзаць.

Так і зрабіў. Сябры ўзрадаваліся, хто ж адмовіцца ад дармавой свежыны ды яшчэ пад чарачку. З парсюком управіліся хутка. Трохлітровы слоік таксама даволі хутка апусцеў. Сябры разышліся, зморана гарэлкай Макар захроп да раніцы. А калі назаўтра прачнуўся, то першае, што ён убачыў, былі дзве свіныя галавы, якія ляжалі на стале, задраўшы лычы. “Дапіўся!” – спужаўся Макар. Ён патрос галавой, зажмурыў вочы, і зноў асцярожна паглядзеў. Галавы было дзве! Ліхаманкава пачаў ўспамінаць учарашні дзень. Пасля выпітага зрабіць гэта было нялёгка, але Макар добра ведаў, што парсюк быў адзін. Чаму ж дзве галавы?

У суседнім пакоі заварушылася жонка. Яна заўважыла, што Макар апрытомнеў і пачала сварыцца. Але Макару яе лаянка нічога не тлумачыла, пакуль яна не сказала: - Уставай, алкаголік, трэба неяк раду даць салу і мясу, я ж ад бацькоў таксама вунь галаву свіную прывезла і кумпяк!

***Уладзімір Асокін***

## КАЛІ СВЕТ БУДЗЕ

Гэта было ў Бешанковічах. Неяк з раніцы адключылі электрычнасць. Тэлевізар не працуе, радыё таксама парастала гаварыць. Жанчына звоніць дзяжурнаму ў РЭС: “Хлопцы, што гэта такое, калі свет будзе? – Ужо дванадцаць гадзін, а я яшчэ не ведаю, дзе сёння Аляксандр Рыгоравіч!”

## БЯГУЧЫ МОМАНТ

Жыццё кіпіць у барацьбе.
Vivat填ературбацыя !
Вяла наперад КПБ,
Цяпер - Адміністрацыя.
У ступе зноў ваду таўкуць,
А людзі з тымі ж бедамі.
Куды на гэты раз вядуць,
Ужо ніхто не ведае.




## АНЕКДОТЫ

* * *

- Ці ёсць на Беларусі апазіцыянеры?
- Калі б яны былі, іх бы ўжо не было.

* * *

- Гэта праўда, што пры рынкавым сацыялізме прадукты можна будзе заказваць па тэлефону?
- Праўда. Але выдаваць іх будуць па тэлевізару.

* * *

Над уваходам у лядовы палац вісіць лозунг: “Няхай жыве беларускі народ – вечны будаўнік рыначнага сацыялізма!”

* * *

Кандыдат у дэпутаты кажа выбаршчыкам, што лепшае жыццё ўжо на гарызонце. Голас з зала: “А што такое гарызонт?”
- Гэта ўяўная лінія паміж небам і зямлёй, якая аддаляецца ад нас, калі мы спрабуем да яе наблізіцца.

## АБ’ЯВА

Запрашаем актыўных людзей, якія згодны займацца зборам подпісаў пад час правядзення выбарчай кампаніі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь іназіраннем за маючымі адбыцца выбарамі, да супрацоўніцтва. **Кантактны тэлефон 2 – 26 – 93.**

“Кардон”. Бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі “Таварыства Беларускай мовы ”. № 1(18), студзень 2001.
Рэдкалегія: Валянціна Гракун, Георгій Станкевіч ,Уладзімір Асокін. Кампьютэрны дызайн і вёрстка:А.Каліноўскі .
Тыраж 299. Выдадена пры падтрымцы Віцебскага філіяла “Фонда імя Льва Сапегі”. Распаўсюджваецца бясплатна.
Тэл. **2 – 26 – 93,** 211 350, Бешанковічы, Маладзёжная, 9 – 21.